# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Субота, 26 лістапада 1994 года

№127 (10827)

Цана 50 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## Хоць бы паўкрока наперад

*Экспрэс-аналіз работы народнай гаспадаркі вобласці за 10 месяцаў г.г.*

Не радуюць нас прэс-выпускі абласнога ўпраўлення статыстыкі. Увесь час азмрочваюць настрой. І не таму, што яго работнікі паставілі перад сабой такую мэту. Проста ў іх няма станоўчай фактуры. Па-ранейшаму народная гаспадарка вобласці топчацца на месцы і ніяк не можа зрабіць хоць паўкрока наперад, аб чым сведчаць і вынікі яе работы за дзесяць месяцаў.

Усё пазнаецца ў параўнанні. Дык вось, калі за тры кварталы выпуск прадукцыі скарацілі 185 прадпрыемстваў (67,8 працэнта) і яе недадалі на 90,5 мільярда рублёў, то за дзесяць месяцаў — на адно больш (68,6 працэнта), і мы не атрымалі прамысловых вырабаў на 104,6 мільярда рублёў. Хіба толькі прымушае нас глядзець на рэчы больш аптымістычна тое, што зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці ў супастаўных цэнах у параўнанні са студзенем-кастрычнікам мінулага года склала 8,8 працэнта, у той час як за дзевяць месяцаў — 10,5.

На некалькі працэнтаў замарудзілася ў цэлым падзенне аб'ёмаў у вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, у машынабудаванні, у нафтахімічнай, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай, лёгкай прамысловасці. Асобныя прадпрыемствы нават павялічылі выпуск прадукцыі. У прыватнасці, Смілавіцкая валюшна-лямцавая фабрыка (206,2 працэнта), Смалявіцкі механічны завод (166,4), аб'яднанне "Беларуськалій" (147,9), Барысаўскі завод медпрэпаратаў (129,7).

Большасць прадпрыемстваў, на жаль, страчвае раней заваяваныя пазіцыі, іх вытворчыя паказчыкі апускаюцца ўніз. Як, скажам, на Крупскім дрэваапрацоўчым камбінаце — на 73,6 працэнта (у параўнанні з дзесяццю месяцамі мінулага года), Смалявіцкім заводзе шасцерань — на 63,9, народным прадпрыемстве "Калінка" з Салігорска — на 59,4 працэнта і г.д. Асноўныя прычыны — цяжкасці са збытам прадукцыі з-за разрыву гаспадарчых сувязей, перабоі з матэрыяльна-сыравінным забеспячэннем і неплацяжы.

Характэрная дэталь. Развал эканамічных адносін адмоўна адбіваецца і на рабоце недзяржаўных форм уласнасці, дзе вытворчасць скарацілася на 22,7 працэнта. А вось у акцыянерных таварыствах назіраецца рост на 6,1 працэнта.

Невясёлы малюнак і з таварамі народнага спажывання. Іх аб'ёмы за студзень-кастрычнік склалі 654,2 мільярда рублёў (у адпускных цэнах) — на 117,4 мільярда (15,2 працэнта) менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Калі ж параўноўваць сёлетні кастрычнік з мінулагоднім, то бачым падзенне на 41,9 працэнта.

У цэлым жа ў параўнанні са студзенем-кастрычнікам мінулага года выпуск тавараў народнага спажывання скарацілі 147 прадпрыемстваў — 57,4 працэнта ад агульнай колькасці тых, што выпрацоўваюць гэтую прадукцыю.

На 8,3 працэнта менш, чым за адпаведны перыяд летась, мы атрымалі харчовых тавараў — усяго па вобласці іх маем на 418,5 мільярда рублёў.

Цяжкасці са збытам прывялі да скарачэння выпуску піва на 66,5 працэнта, безалкагольных напіткаў — на 37,8, мінеральнай вады — на 26,2. З-за адсутнасці мукі знізілася на 25,3 працэнта вытворчасць макаронных вырабаў, а змяншэнне паставак жывёлы на мясакамбінаты вымусіла скараціць на 20,6 працэнта выпуск каўбас.

Нехарчовых тавараў (без лёгкай прамысловасці) выпушчана на 159,7 мільярда рублёў — на 8,7 працэнта менш, чым за такі ж перыяд мінулага года. Скараціўся выпуск фотаапаратаў на 218,4 тысячы штук (67,3 працэнта), дзіцячых веласіпедаў — на 60 тысяч (54,1), ложкаў — на 11,1 тысячы (38,4), мэблевых гарнітураў для адпачынку — на 10,6 тысячы (58,9), канапаў-ложкаў — на 16,6 тысячы (55,4) і г.д.

Што датычыць тавараў лёгкай прамысловасці, то іх выраблена на 48 працэнтаў менш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. У цэлым па вобласці іх атрымана на 66 мільярдаў рублёў. Зніжана вытворчасць штаноў на 253 тысячы штук (79,6 працэнта), бялізны ясельнай — на 104 тысячы (65,8), паліто — на 157 тысяч (63,8), трыкатажу — на 20,6 мільёна штук (51,2), абутку скуранога — на 74 тысячы пар (19), шарсцяных тканін — на 217 тысяч квадратных метраў (46,9), баваўняных — на 683 тысячы квадратных метраў (36,5).

Вось такія вынікі работы народнай гаспадаркі вобласці за студзень-кастрычнік 1994 года.

А цяпер — аб сумесных прадпрыемствах. Па стану на 1 кастрычніка іх зарэгістравана ў вобласці 106 з удзелам прадпрымальнікаў 21 краіны. Найбольш партнёраў з Польшчы — 41, Германіі — 23, Італіі — 9, ЗША — 6. Сёлета да іх далучыліся бізнесмены з Ірландыі, Канады, Кітая.

Аднак толькі на 35 сумесных прадпрыемствах была наладжана вытворчасць, а таксама аказанне паслуг насельніцтву. За тры кварталы імі выпушчана прадукцыі на 27,3 мільярда рублёў. У тым ліку медыцынскіх прыбораў — на 8,5 мільярда рублёў, звыш 3 тысяч камп'ютэраў, 719 тысяч квадратных метраў скураных паўфабрыкатаў, больш 41 тысячы назваў адзення і г.д.

Удзельная вага вырабаў сумесных прадпрыемстваў у агульным аб'ёме вытворчасці вобласці склала каля 2 працэнтаў.

## ПРЭЗІДЭНТ РАЗЛІЧВАЕ НА ПАДТРЫМКУ ПРАФСАЮЗАЎ

— У прэзідэнта і прафсаюзаў мэта адна: дабіцца згоды ў грамадстве і так ажывіць эканоміку дзяржавы, каб людзі адчулі рэальнае паляпшэнне свайго жыцця, — сказаў на сустрэчы з прафсаюзным актывам Беларусі прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што палітычная сітуацыя ў рэспубліцы шматгранная і вельмі супярэчлівая. Ён адкрыта заявіў, што крызіс у эканоміцы наслаіўся на крызіс улады: наменклатурнае чыноўніцтва і некаторыя палітычныя рухі не хочуць згадзіцца з выбарам народа. Размова ідзе аб імпічменце прэзідэнту і аб рашэнні Канстытуцыйнага суда аб правамернасці ўказа аб мясцовым самакіраванні. Аднак, цвёрда растлумачыў А.Лукашэнка, прэзідэнцкая вертыкаль на месцах будзе ўстаноўлена ў бліжэйшыя два тыдні. На сённяшні дзень, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, гэта асноўная задача.

Ён таксама запэўніў, што не дапусціць расколу ў грамадстве. "Народ мне даверыў стабільнасць у дзяржаве. Я настойліва і паслядоўна буду праводзіць у жыццё яго волю, — сказаў А.Лукашэнка. — Думаю, што і тут знайду разуменне прафсаюзаў".

Далей ён адзначыў, што прафсаюзам пара ад крытыкі пераходзіць да канструктыўнага супрацоўніцтва. "Глядзець, застаючыся ўбаку, не час. Калі выбралі прэзідэнтам — падстаўляйце плячо, будзем разам выходзіць з крызісу. Усе вашы канкрэтныя прапановы я гатоў разгледзець і падтрымаць. Больш таго, лічу, што прафсаюзы павінны актыўна ўдзельнічаць у механізме рэалізацыі антыкрызіснай праграмы".

Кіраўнік дзяржавы падтрымаў ініцыятыву Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі аб стварэнні пагаджальнай камісіі па выхаду рэспублікі з эканамічнага крызісу, у састаў якой увойдуць прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта, ўрада, аб"яднанняў наймальнікаў, прафсаюзаў і партый. Ён таксама адзначыў, што ўзровень жыцця насельніцтва далей зніжацца не можа.

Значную ўвагу А.Лукашэнка ўдзяліў жыллёвай праблеме. Ён падкрэсліў, што планы ўрада па ўтрыманню грамадзянамі займаемага імі жылля будуць карэкціравацца і ўкараняцца ў практыку толькі пасля павелічэння даходаў насельніцтва. Значная частка бюджэту 1995 года, якая застанецца пасля неабходных дзяржаўных выплат, пойдзе на жыллёвае, а не прамысловае, як раней, будаўніцтва.

У ходзе абмену думкамі старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык сказаў, што прафсаюзы гатовы і далей супрацоўнічаць з прэзідэнцкімі структурамі. Аднак ён падкрэсліў, што задавольвацца часовай антыкрызіснай праграмай не варта. Трэба працаваць на доўгую перспектыву. "Людзі маюць права ведаць, што іх чакае ў бліжэйшыя гады, ці паявіцца, нарэшце, святло ў канцы тунеля і ці не акажацца яно сустрэчным поездам".

Дасягнута дагаворанасць, што такія кантакты будуць прадоўжаны.

У сустрэчы прынялі таксама ўдзел першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслаў Кузняцоў, віцэ-прэм"ер урада Віктар Ганчар, старшыня Нацыянальнага банка краіны Станіслаў Багданкевіч.

*БЕЛІНФАРМ.*

*Працаўнікі жывёлагадоўчай фермы "Крываносы" калгаса "Палажэвічы" Старадарожскага раёна за дзесяць месяцаў сёлета ад кожнай каровы надаілі ў сярэднім па 2.542 кілаграмы малака. На ферме створаны добрыя ўмовы для працы і адпачынку даярак. Умацоўваецца кармавая база. Майстрамі высокіх надояў называюць ветэрана калгаса Кацярыну Міхайлаўну **Пархімовіч** і маладую даярку Таццяну Мікалаеўну **Лузіну** (на здымку).*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

### Крымінал-тэлетайп

#### ТРОЕ НА ТРАІХ

Два жыхары пасёлка Самахвалавічы і адзін — са сталіцы вырашылі прадаць "Жыгулі". Знайшліся пакупнікі, якія прыбылі паглядзець машыну ў аналагічным саставе. На дарозе паблізу пасёлка Самахвалавічы пакупнікі накінулі ўдаўкі на прадаўцоў і хацелі завалодаць машынай. Але пацярпеўшыя пастаялі за сваё жыццё. Адзін са зладзеяў, жыхар Мурманскай вобласці, затрыманы, астатніх шукаюць праваахоўныя органы.

#### НАВАР — 20 ДОЛАРАЎ

Непрацуючы жыхар Маладзечна захацеў падзарабіць. Кінуў кліч,што прадае японскі тэлевізар. З дзвюма невядомымі асобамі пагадзіліся на цане 320 "зялёненькіх". Калі пакупнікі, забраўшы тэлевізар, пайшлі дахаты, гаспадар кватэры засумняваўся ў сапраўднасці грошай. І высветлілася, што ён меў рацыю. Тры купюры па 100 долараў аказаліся фальшывыя. Выкананы яны былі самым прымітыўным спосабам.

#### НЕ РАЗГЛЕДЗЕЎ

У Старадарожскім раёне непадалёку ад вёскі Навасёлкі нідзе не працуючы жыхар Слуцка на паляванні прыняў за дзіка мужчыну. Прагучаў стрэл, які аказаўся смяротным для апошняга.

#### БРАТЫ-РАЗБОЙНІКІ

Зладзеі дзейнічалі прафесійна. Адключылі сігналізацыю, разбілі аконнае шкло і залезлі ў магазін вёскі Альхоўка. Там яны ўкралі тры мяшкі цукру, 2 — мукі, дзве скрыні гарэлкі і 7 — настойкі, прыхапілі 15 бутэлек піва і 18 кілаграмаў сметанковага масла. А паколькі ноч была доўгая і цёмная, зладзеі яшчэ раней укралі каня і павозку. Аказалася, што разбойнічалі ноччу два браты, абодва — судзімыя, нідзе не працуючыя.

#### І ЗНОЎ "ЗЯЛЁНЕНЬКІЯ"

Невядомыя ў масках завіталі ў дом жыхаркі вёскі Дружба, што ў Мінскім раёне, якая працуе ў вытворча-камерцыйнай фірме "Яліна". Для пагрозы паказалі пісталет, нож, а ахвяру, каб не супраціўлялася, звязалі. Улоў візіцёраў — 5 тысяч долараў.

А вось на аўтарынку каля вёскі Азярцо пяцёра невядомых падрадзіліся выбраць машыну студэнту. Такая "дружалюбнасць" каштавала пакупніку 4,5 тысячы "зялёненькіх".

#### КРАДЗЯЖЫ "МАЛАДЗЕЮЦЬ"

У пасёлку Міханавічы з падвала дома знік веласіпед. Крадзеж па сучасных мерках звыклы. Праваахоўныя органы вылічылі злодзея. Ім аказаўся вучань.

## УДЗЯЧНЫЯ СПОНСАРАМ

18 лістапада г.г. у мінскім гарадскім Палацы дзяцей і моладзі адбылося абласное свята "Мір дому твайму", на якое прыехала 28 лепшых шматдзетных сем"яў вобласці.

Праўленне Мінскага абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду выказвае ўдзячнасць усім спонсарам, сябрам Дзіцячага фонду, якія аказалі дапамогу ў правядзенні гэтага свята:

Мінскаму аблвыканкому (старшыня Альфонс Ільіч Цішкевіч), таварыству з абмежаванай адказнасцю "Кар-такс" (дырэктар Яўген Пятровіч Людчык), таварыству з абмежаванай адказнасцю "Мінаблдзетфонд" (дырэктар Мікалай Аляксеевіч Бутко), Рэспубліканскаму знешнегандлёваму прадпрыемству "Белзнешпрамсервіс" (генеральны дырэктар Канстанцін Браніслававіч Табола), канцэрну "Белмагістральаўтатранс" (генеральны дырэктар Мікалай Іванавіч Баравой).

У падрыхтоўцы гэтага свята актыўны ўдзел прыняў гарадскі цэнтр "Адраджэнне і развіццё беларускай культуры" (дырэктар Мікалай Пракопавіч Агароднік)

*Галіна ПРАНЬКО, старшыня Мінскага абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Газета для вас і пра вас*

Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 1995 года. Кошт яе на *"Мінскую праўду"* — 7.200 рублёў.

Калі вы аформіце абанемент на нашу газету, то будзеце мець аператыўную і цікавую інфармацыю аб падзеях у рэспубліцы, сталічнай вобласці.

"Мінская праўда" — газета для вас і пра вас!

## ЧТОБЫ ДЕПУТАТЫ НЕ ЗАБЫВАЛИ, А МОЖЕТ, И НЕ ЗАБЫВАЛИСЬ

Республиканский совет "Движение за демократию, социальный прогресс и справедливость" направил на имя депутатов Верховного Совета обращение. В нем, в частности, говорится, что в ближайшее время предстоит принять Закон о выборах и что не может не беспокоить вопрос об отзыве депутатов, забывших о своем долге перед избирателями.

Далее подчеркивается в этом обращении, что в принятой без совета с народом новой Конституции республики, в отличие от прежней, право на отзыв депутатов отсутствует. Это позволяет парламентариям после их избрания забывать о своих предвыборных обещаниях, об ответственности перед народом, открывает возможность решать государственные вопросы с учетом прежде всего собственных интересов. "Данный недостаток новой Конституции еще не поздно исправить, включив в Закон о выборах статью о праве избирателей на отзыв депутатов на основе процедуры, аналогичной их избранию", — говорится в обращении.

*(Наш корр.).*

## НЕ ЎТРЫМАЛАСЯ Ў ЦАНЕ ТАРА

Яшчэ больш беражліва прыйдзецца нам абыходзіцца са шкляной тарай — цэны на яе з 25 лістапада павысіліся ў тры разы. Цяпер паўлітровая бутэлька з-пад малака і кісламалочных прадуктаў, а таксама ў 0,33 літра будуць каштаваць 210, з-пад гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў — 420, піва і безалкагольных напіткаў — 300 рублёў. У 120 "зайчыкаў" ацэнены слоік з-пад смятаны. З пятніцы зменены цэннікі і на слоікі: ёмістасцю 0,25 літра ацэнены ў 210, 0,5 — у 300, літровы — у 390, а трохлітровы — 1.020 рублёў.

Як растлумачылі ў Дэпартаменце цэн пры Міністэрстве эканомікі рэспублікі, такая мера выклікана значным падаражэннем сабекошту вытворчасці шкляной тары з-за росту цэн на энергарэсурсы, сыравіну і матэрыялы, а таксама каб прадухіліць вываз у суседнія рэгіёны, дзе яна ў тры-чатыры разы даражэйшая, чым у Беларусі. Пры гэтым было падкрэслена, што павышэнне залогавых цэн не азначае павышэння розничных на расфасаваныя харчовыя тавары, паколькі па той жа цане тара прымаецца ад насельніцтва назад для паўторнага выкарыстання.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ШТОТЫДНЁВІК "СТАЛІЦА"

**Учора выйшаў у свет першы нумар інфармацыйна-рэкламнага штотыднёвіка "Сталіца", заснавальнікам якога выступіў журналісцкі калектыў мінскай гарадской газеты "Добры вечар".**

У звароце да чытачоў рэдакцыя падкрэслівае, што "Сталіца" — гэта грамадска-палітычны, інфармацыйна-рэкламны штотыднёвік. У ім будзе шырока прадстаўлены багаты аналітычны матэрыял па многіх праблемах палітыкі і эканомікі, на старонках новага выдання знойдуць для сябе цікавыя матэрыялы школьнікі і рабочыя, студэнты і бізнесмены, прадстаўнікі інтэлігенцыі і хатнія гаспадыні. Шырока будзе прадстаўлена культурная і спартыўная інфармацыя, дзелавая хроніка і журналісцкае расследаванне, судовы нарыс і красворд, кулінарны рэцэпт і анекдот. На старонках штотыднёвіка чытачы сустрэнуцца з вядомымі людзьмі рэспублікі, дзеячамі навукі і культуры. Друкуецца падрабязная праграма тэлебачання, у тым ліку НТВ і 8-ы канал.

Багаты па зместу першы нумар "Сталіцы". Чытачоў зацікавяць разнастайныя факты і каментарыі тыдня, інтэрв"ю з саветнікам пасольства Францыі ў Беларусі панам М.Пушпадасам "У Парыжы мне ўжо крыху не хапае Мінска", артыкулы "Пырскі сапраўднага шампанскага" з Мінскага завода шампанскіх він, "Чаму С.Багданкевіч не публікуе дэкларацыю аб даходах", "Кавалеры" і іх ахвяра". Жанчыны знойдуць для сябе парады, і ўсе з цікавасцю прачытаюць экспрэс-інтэрв"ю з Алай Пугачовай, якое надрукавана пад загалоўкам "Што любіць каралева?"

На спартыўнай старонцы змешчаны расказ аб вядомым у мінулым футбалісце Эдуардзе Зарэмбе і ўспаміны ветэрана фотажурналістыкі Мікалая Хадасевіча. Заканчваецца нумар свецкай хронікай, красвордам, анекдотамі і байкамі.

## БАГАТЫЯ НЕ ТОЛЬКІ ПЛАЧУЦЬ, АЛЕ І СМАЧНА ЯДУЦЬ

Колькі гумарыстычных і трагічных гісторый спароджана нашай айчыннай сістэмай грамадскага харчавання! Праблема невычарпальная, як акіян, і заблытаная, як дыялектыка Гегеля. Кожны, хто хоць з дзесятак разоў харчаваўся ў дзяржаўнай сталоўцы, ведае: наводзіць парадак у гэтай сферы — тое ж, што насіць ваду ў рэшаце. Тым не менш дзяржава зрабіла спробу рэфармаваць гэтую нерэфармуемую галіну.

Колішнім Саветам Міністраў Беларусі была прынята адпаведная пастанова, якая скасавала раённыя трэсты сталовых. Большасць сталовых прамысловых прадпрыемстваў, навучальных устаноў былі перададзены ў распараджэнне іншых галін народнай гаспадаркі.

— Змянілася структура кіравання галіной, — расказвае начальнік гандлёва-прамысловага аб"яднання "Мінскхарчаванне" Мікалай Нарэйка. — Калі раней мы камандавалі, размяркоўвалі, то сёння рэкамендуем, аказваем паслугі. Кантрольная функцыя захавалася, але рычагі кантролю сёння іншыя, напрыклад, лабараторны кантроль за якасцю харчавання. А ўвогуле, арганізацыя грамадскага харчавання павінна стаць справай прыватнай.

Лінія на прыватызацыю грамадскага харчавання ў сталіцы ўжо дала свае канкрэтныя вынікі. На базе ліквідаваных нерэнтабельных кафэ, сталовых, буфетаў створаны шэраг канкурыруючых сумесных, малых прадпрыемстваў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю. Трэба адзначыць, што створаныя кафэ, рэстараны займаюцца абслугоўваннем у абедзенны час работнікаў тых прадпрыемстваў і арганізацый, дзе яны створаны, па цэнах трэцяй катэгорыі.

Ідуць пераўтварэнні і ў дзяржаўным сектары прадпрыемстваў. Дзяржаўныя рэстараны, кафэ, сталовыя ў асноўным пераўтвораны ў арэндныя, народныя прадпрыемствы. Да канца 1994 года ў Мінску будзе прыватызавана да 50 працэнтаў прадпрыемстваў грамадскага харчавання. За тое, што шлях прыватызацыі правільны, гаворыць фінансавае становішча самастойных прадпрыемстваў. Як правіла, яны са стратныхператварыліся ў прыбытковыя. Напрыклад, на базе стратнага кафэ "Бурштын" створана беларуска-германскае сумеснае прадпрыемства "Экспрэс-сервіс". Зменены інтэр"ер памяшкання, закуплена новае абсталяванне. Устаноўлена 5 кіёскаў па рэалізацыі сокаў, напіткаў, разнастайных тавараў. Два кіёскі працуюць кругласутачна.

Сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Эберт-Нарпіт" акрамя вытворчасці па вырабу каўбасак, кебабаў, шашлыкоў мае 9 кіёскаў па рэалізацыі гэтай і іншай прадукцыі.

Шэраг прыкладаў можна было б доўжыць. Але вывад адзін — там, дзе з"яўляецца гаспадар, з"яўляюцца парадак, дысцыпліна, якасць абслугоўвання. Колькасць прыватных прадпрыемстваў харчавання і іх канкурэнцыя, лічыць М.Нарэйка, павінны ўзрастаць. Толькі такім чынам можна вырашыць гэтую праблему ў горадзе.

Планам развіцця горада да 2000 года прадугледжана будаўніцтва 500 кропак грамадскага харчавання. Але ці будуць яны пабудаваны? За кошт бюджэтных сродкаў будаўніцтва весціся не будзе. Няма грошай. Спадзеўка — на інвестараў. Толькі вось не вельмі разганяюцца багатыя дзядзькі ўкладваць у будаўніцтва грошы. Вельмі марудная абарачальнасць сродкаў у галіне грамадскага харчавання. А калі гаварыць пра замежных інвестараў, дык яны і ўвогуле баяцца ўкладваць грошы ў нашу нестабільную краіну. Прадстаўнікі таго ж славутага "Макдональдса" прыязджалі ў Мінск весці перагаворы аб адкрыцці рэстарана, але, падлічыўшы затраты на будаўніцтва нарыхтоўчай фабрыкі, далі задні ход.

Ці будзе далей развівацца сістэма грамадскага харчавання, залежыць таксама ад наяўнасці ў кашальках грамадзян грошай. Будзе расці дабрабыт насельніцтва — будзе попыт на рэспектабельныя кафэ і рэстараны, а значыць, знойдуцца і інвестары. Ужо сёння ў сталіцы дастаткова адмысловых месц, дзе і цудоўнае меню, і змястоўны адпачынак. Дастаткова і багатых людзей, якія, як бачым, не толькі плачуць, але і любяць смачна паесці.

На жаль, разам з колькасцю багатых расце і колькасць людзей, пазбаўленых магчымасці не тое што смачна, але і наогул паесці.

*Павел ВЕРАБ"ЁЎ.*

